# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 27 (188), 26 ЛІПЕНЯ — 1 ЖНІЎНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ



# СА СВЯТАМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Выказаўшы свае думкі перад блізкімі, роднымі, часам нават не вельмі падбіраючы прыстойныя словы, народ пераносіць дыскусіі ў найбольш адпаведныя для гэтай мэты месцы: транспарт, крамы, прыпынкі. Ёсць магчымасць выпусціць пару і застацца сярод незнаёмых людзей не зафіксаваным. Сцішана ўжо сёй-той апасаецца: "Хто ведае, як усё павернецца, калісьці таксама свабоду давалі спачатку, а потым садзілі ў турмы, расстрэльвалі." "Дзяржава моцная свядомасцю мас", — сцвярджаў у свой час асуджаны гісторыяй палітычны класік. Гарызонты грамадскай свядомасці на карысць адраджэнню сярод простых людзей у нашай рэспубліцы надзвычай аддаленыя ці наогул размытыя, нібы ў час дажджу дарога з гліны. Прыхільнікаў актыўнага прагрэсіўнага руху менш за ўсё сярод надломленых жыццёвай неўладкаванасцю, змарнелых ад хранічнай нястачы, жанчын. Яны больш за іншых раз'юшана бэсцяць адданых Радзіме сыноў, пэцкаюць зацягнутым цінаю застойных гадоў брудам зняслаўлення. Зневажанне, асабліва інтэлігенцыі, якая заўсёды была слабым абаронцам самой сябе, ужо даўно стала ў нас нормай жыцця.

(Заканчэнне на стар. 2)



1. Беларусь — незалежная краіна.
2. Ці будзе жыць беларуская мова?
3. Мая мара.
4. Янка Купала нарадзіўся на Купалле...

КРУГЛЫ СТОЛ

Культура

23 чэрвеня 1995 года ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

СІТУАЦЫЯ

***ЧАЦВЁРТЫ і, мабыць, апошні раз беларусы маюць магчымасць у гэтым годзе адзначыць як дзяржаўнае свята Дзень Незалежнасці. Наўрад ці будуць у гэты дзень нейкія прыкметныя афіцыйныя ўрачыстасці, бо Свята Незалежнасці, на жаль, не з'яўляецца сапраўдным святам сённяшніх кіраўнікоў краіны. Не ўсведамляецца яно як нацыянальнае свята і большасцю насельнікаў Беларусі, якія нядаўна ў ходзе рэферэндуму падтрымалі антынацыянальную па сутнасці палітыку.***

# РОЗДУМ З НАГОДЫ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



Падтрымалі, не зважаючы на тое, што апошнім часам практычна нічога не зроблена для паляпшэння жыцця народа. Эканамічны крызіс паглыбляецца. Працягваецца спад вытворчасці. Каля 80 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў знаходзяцца на грані банкрутства. Расце беспрацоўе, схаванае (частковае — вымушаныя адпачынкі) і поўнае. Месяцамі не выплачваецца заработная плата. Больш за палову насельніцтва не мае пражытачнага мінімуму. На грані краху сістэма народнай адукацыі, ахова здароўя. Аднак ніякія эканамічныя рэформы не праводзяцца.

Працягваецца рост злачыннасці, адкрытых разбояў бандыцкіх шаек на аўтамагістралях, чыгунках, гарадскіх і вясковых вуліцах. Не ратуюць ад іх нават сцены ўласных дамоў і кватэраў. Нічога рэальнага не зроблена па выкараненні карупцыі ў дзяржаўным апараце, па гэтых справах ніхто з відных чыноўнікаў не прыцягнуты да судовай адказнасці. Як ацаніць гэта, калі ўспомніць, колькі слоў было сказана пра бескампрамісную барацьбу з карупцыяй і мафіёзнымі структурамі ў органах дзяржаўнай улады?

Разам з тым да канца раскрылася антыбеларуская сутнасць сённяшняй дзяржаўнай палітыкі. Праведзены рэферэндум "узаконіў" манапольнае панаванне ў Беларусі мовы суседняй краіны, асудзіў на выміранне беларускую мову і нацыянальную культуру, скасаваў спрадвечныя нацыянальна-дзяржаўныя сімвалы і аднавіў з неістотнымі карэктывамі надуманую сімволіку камуністычна-таталітарнага рэжыму, які за доўгія дзесяцігоддзі свайго панавання давёў беларускі этнас да мяжы знікнення, ператварыў большасць насельніцтва Беларусі ў русіфікаваных манкуртаў, што называліся на Захадзе "homo soveticus", а ў СССР — "савецкі народ".

Сваім падкрэсленым непрыняццем беларускай мовы вышэйшае кіраўніцтва дзяржавы падштурхоўвае ўвесь велізарны чыноўніцкі корпус Беларусі зверху да нізу карыстацца рускай моваю — нават насуперак жаданню асобных прадстаўнікоў апошняга, паколькі публічныя выступленні па-беларуску ў такіх умовах успрымаюцца як палітычная апазіцыя афіцыйным уладам, як прыкмета "беларускага нацыяналізму". Ці задумваюцца нашы кіраўнікі, які рэзананс гэта мае ў грамадстве, як уплывае на адносіны да беларускай мовы пры выбары бацькамі мовы навучання сваіх дзяцей у школах, на лёс нацыянальнай школы? Гэта і ёсць роўнасць моваў? Тэзіс рэферэндуму аб наданні рускай мове ў Беларусі роўнага статуса з беларускай выглядае ў гэтай сітуацыі абсалютна фальшывым, дэмагагічным, здзеклівым. Цяперашнімі чыноўнікамі беларуская мова пастаўлена ў Беларусі фактычна па-за законам — насуперак Канстытуцыі і Закону аб мовах, якія ніхто не адмяняў.

Адначасова аб'яўлена "вайна" новым вучэбным дапаможнікам па гісторыі, напісаным і выдадзеным у 1992 — 1993 гг. у незвычайна сціслыя тэрміны, паколькі сітуацыя ў школе з вывучэннем гэтай дысцыпліны пасля распаду СССР і краху камуністычнага эксперыменту ў глабальным маштабе была ў поўным сэнсе крытычнай. Аднак замест падзякі аўтарам і выдаўцам улады без усялякіх доказаў ацэньваюць дапаможнікі як "нацыяналістычныя" і заяўляюць, што іх "трэба выкінуць у макулатуру". Абурае іх тое, што гісторыя Беларусі ў гэтых кнігах упершыню пасля 20-х гадоў выкладаецца з нацыянальна-дзяржаўных, беларускіх пазіцый. Улады не прымаюць іх і відавочна выступаюць за захаванне ў сістэме гістарычнай адукацыі Рэспублікі Беларусь расійска-вялікадзяржаўніцкай канцэпцыі нашай айчыннай гісторыі.

Тут неабходна адзначыць, што ў сваёй аснове гэтая канцэпцыя была распрацавана расійскімі гісторыкамі афіцыйнага напрамку ў XVIII—XIX стст. У пачатку 30-х гадоў па ініцыятыве Сталіна савецкія гісторыкі пэўным чынам мадэрнізавалі яе, спалучыўшы з догмамі бальшавізму. У 40 — 80-я гады метадалагічны гібрыд карэктаваўся ў адпаведнасці з палітыкай кіраўніцтва КПСС, але ў сутнасці сваёй заставаўся нязменным і цалкам вызначаў змест савецкай гістарыяграфіі і гісторыі Расіі — СССР і БССР. Ён поўнасцю адпавядаў установкам ідэолагаў КПСС—КПБ на зліццё моў, культур і народаў і стварэння ў СССР рускамоўнага, выхаванага ў камуністычна-імперскім духу савецкага народа як новай гістарычнай супольнасці людзей. У беларускай савецкай гістарыяграфіі нацыянальныя гістарычныя каштоўнасці і дзеячы былі амаль цалкам выкінуты і заменены іншымі "героямі", якія нярэдка душылі імкненні нашага народа быць гаспадаром у сваёй краіне. У нас шмат дзесяцігоддзяў насаджалася па сутнасці антынацыянальная канцэпцыя айчыннай гісторыі, якая і прычынілася да фальсіфікацыі гістарычнай памяці некалькіх пакаленняў людзей, да распаўсюджання нацыянальнага нігілізму і манкуртызму. Інакш і не магло быць. Бо беларускі народ паказваўся фактычна як гістарычна непаўнацэнны, няздольны самастойна пратрымацца сярод больш моцных суседзяў, абараніць свае жыццёвыя інтарэсы, быць гаспадаром свайго лёсу і сваёй краіны, як народ, які быццам бы на працягу стагоддзяў толькі сніў і марыў аб аб'яднанні са "старэйшым братам", г.зн. з царскай Расіяй.

Аўтары новых дапаможнікаў па гісторыі Беларусі зыходзілі з таго, што суверэннай дзяржаве, якой абвясціла сябе Беларусь у пачатку 90-х гадоў, немагчыма надалей захаванне антынацыянальнай па духу канцэпцыі айчыннай гісторыі, бо гэта відавочны нонсэнс. У сапраўдных суверэнных дзяржавах такой з'явы ніколі не было і няма. Расійскія, польскія, нямецкія, французскія, англійскія (і г.д.) гісторыкі спрадвеку асвятляюць гісторыю сваіх краін і народаў з адпаведных нацыянальна-дзяржаўных, патрыятычных пазіцый. І нікога гэта не шакіруе. Бо кожны цывілізаваны народ мае сваю нацыянальную гістарыяграфію, якая адлюстроўвае менавіта яго гістарычную памяць, яго погляд на ўласны гістарычны шлях і ўзаемадачыненні з іншымі народамі і краінамі. Бо нацыянальная гістарыяграфія з'яўляецца асновай нацыянальнай самасвядомасці кожнага народа і адным з краевугольных камянёў у падмурку дзяржаўнага суверэнітэту любой краіны. Улады Беларусі, на жаль, думаюць і дзейнічаюць інакш. І гэта яшчэ раз сведчыць, што яны ўсур'ёз рыхтуюць палітычнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй, ліквідацыю дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны.

Цвёрда засвоіўшы прарасійскую інтэрпрэтацыю гісторыі Беларусі, наша кіраўніцтва спрабуе даказаць, што беларускі народ без аб'яднання з Расіяй не зможа выжыць. Не зважаючы на відавочнае нежаданне кіраўнікоў Расіі ўзяць на сваё ўтрыманне Беларусь, улады з дзіўнай настойлівасцю праяўляюць імкненне "здаць" сваю краіну пад апеку "старэйшага брата". Гэта — idee fixe іх палітыкі. Стаўка на свой народ, на разгортванне яго ініцыятывы адкідаецца. А яна, як сведчыць гістарычны вопыт,— адзіна правільны арыенцір у палітыцы. Правільнасць менавіта такога курсу ў сучасных умовах пацвярджае прыклад краін Балтыі, эканоміка якіх была не менш цесна "завязана" на Расію, чым наша. Можна з абсалютнай упэўненасцю сцвярджаць, што ніякі "чужы дзядзька" ці нават "старэйшы брат" не возьме на сябе цяжкі груз нашых праблем з пачуцця альтруізму. Толькі сам народ, адчуўшы і ўсвядоміўшы сябе гаспадаром свайго лёсу і сваёй краіны пры дасведчаным і сумленным кіраўніцтве зможа пераадолець сучасны глыбокі сацыяльна-эканамічны, палітычны і духоўны крызіс, спыніць падзенне Беларусі ў бездань бязладдзя і хаосу і выйсці на светлы шлях Адраджэння.

Рэальна ў Беларусі працягваецца збанкрутаваная палітыка ўрада В.Кебіча. Як пры ім, шырока прапагандуюцца шкодныя ілюзіі наконт асаблівых адносін з Расіяй у якасці панацэі выратавання краіны. Можа, хоцяць тлуміць розум народа, гасіць у зародку народную ініцыятыву ў вырашэнні ўласных праблем, узмацніць у масах насельніцтва ўтрыманскія настроі? Але няма надзеі на тое, што цяперашняе кіраўніцтва разбурыць гэтыя ілюзіі, заявіць аб поўнай іх беспадстаўнасці і шкоднасці, прызнае ў прынцыпе арыентацыю на знешні фактар як шлях да выхаду з крызісу памылкай і заканадаўча праз парламент забяспечыць развіццё народнай ініцыятывы ў вырашэнні гаспадарчых, палітычных і культурных праблем, напоўніцу выкарыстоўваючы пры гэтым наша вельмі выгаднае геапалітычнае становішча, уласныя прыродныя рэсурсы і інтэлектуальны патэнцыял нацыі.

Формула "народ — гаспадар сваёй краіны" можа быць рэалізавана толькі пры ўмове захавання і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Гэта — аснова для кансалідацыі народа. Умацаванне ж нашага суверэнітэту, ператварэнне Беларусі ў прававую сацыяльную дзяржаву тыпу Швецыі, Фінляндыі і падобных да іх еўрапейскіх краін, дасягненне сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага ўздыму немагчыма без выхавання грамадзян у духу нацыянальна-дзяржаўнага патрыятызму, без пераадолення цяжкай хваробы нацыянальнага нігілізму — пагардлівых адносін да роднай мовы, нацыянальнай культуры, апрабаваных жыццём спрадвечных нормаў маралі, традыцый і звычаяў свайго народа. Бо нацыянальны нігілізм, які паразітуе на гістарычным бяспамяцтве, манкуртызме і касмапалітычнай маскультуры, няўхільна вядзе да маральнай дэградацыі грамадства — імклівага росту бездухоўнасці, спажывецкіх настрояў як жыццёвага ідэалу, разбэшчанасці, п'янства, наркаманіі, злачыннасці, што адпаведным чынам праяўляецца ў адносінах людзей да дзяржавы, сям'і, працы, прыроды.

Не верыцца, што кіраўніцтва краіны не ўсведамляе глыбінная ўзаемазалежнасці сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага крызісу нашага грамадства, што нельга выйсці з першага, не пераадольваючы другі (нацыянальны нігілізм) і не ўмацоўваючы суверэнітэт Беларусі. Аднак правядзенне рэферэндуму сведчыць, што гэта, на жаль, — факт.

Формула "Народ — гаспадар сваёй краіны і каваль свайго шчасця" рашуча адкінута. Зроблена стаўка на ўтрыманства. Такая палітыка будучыні не мае. Абнадзейвае тое, што ў ходзе рэферэндуму выявілася не менш мільёна нацыянальна свядомых грамадзян. Думаецца, што яны стануць ядром кансалідацыі народа і змогуць забяспечыць захаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук**

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

# ПАЛОТНЫ КАЗІМІРА



***Вяртаючыся да сваіх вытокаў, мы кожным разам добрым словам згадваем людзей, якія нямала зрабілі для таго, каб годна праслаўляць свой край, свой народ. У гэтым спісе, несумненна, важнае месца належыць пачынальніку тэмы беларускай мінуўшчыны ў нацыянальным выяўленчым мастацтве Казіміру Альхімовічу. На жаль, не сказаць, каб пра яго творчасць ведалі многія...***



Тыдзень з нечым мінуўся, як ён зноў у Варшаве. У родных сценах, што прываблiваюць звыклым цяплом, ствараюць тую ўтульнасць, якой так не хапала ў доўгай дарозе. А вось чамусьці не па сабе. Няўжо прычына ўся ў апошнім наведванні Дамброва?! Ва ўражаннях, якія настолькі моцныя, што не даюць супакаення і душэўнай раўнавагі? У нейкай ступені гэта і сапраўды так. Але не ў адной паездцы справа. Бывала іх і раней нямала.

"Эх, Казімір,Казімір!" Думка, што прыйшла нечакана, не адпускала ад сябе: "Казімір, Казімір! Ды хіба ты не забыўся, колькі гадоў табе? Пад семдзесят падбіраецца..."

Альхімовіч прысеў ля стала, ашчаперыў галаву. Хто ведае, магчыма, гэта і апошняя паездка ў Дамброва?! Можа і развітанне было гэта?! Сам на яго не разлічваў, разумела... Але душу не падманеш. Душа ўсё адчувае... Проста трэба нарэшце ўзяцца за напісанне карціны, пра якую думаў неаднойчы. Ды чамусьці ўсё атрымлівалася, што справу гэтую пакідаў на пасля. А сюжэт твора даўно да драбніц прадуманы. Нават ёсць у запасніках некалькі замалёвак, зробленых наспех яшчэ які з дзесятак гадоў таму, калі таксама давялося зазірнуць у родны маёнтак. Асабліва запомніліся некалькі сялянак. Трэба будзе з цягам часу абавязкова напісаць іх партрэты, нешта накшталт "Вясковай дзяўчыны". Карціна даўно завершана і прыносіць яму асалоду і задавальненне.

...Не тое, што з задавальненнем пісалася Альхімовічу. Ці не душой памаладзеў. Увесь вольны час аддаваў карціне. "У поце чала" назваў яе. На пярэднім плане, ля самага плота ляжыць на посцілках дзіця, побач — яго маці. Паклала серп ля ног, узяла ў рукі гладыш з квасам, закінула галаву, робіць жадлівыя глыткі.

А закончыў гэтую карціну, узяўся за наступную. Таксама падказаную наведваннем родных мясцін. "Шляхціч і селянін"... Не звычайнага шляхціча паказаў, а ўдзельніка паўстання 1794 года. Каб лепш падкрэсліць яго прыналежнасць да тагачасных падзей, "надзеў" яму на галаву шапку-канфедэратку, акурат такую, якую і насілі змагары "за нашу і вашу свабоду".

Пастарэў колішні бунтар, гады сваё ўзялі. Згорбіўся, мусіць на кіёк абапірацца. Але пра ідэі маладосці не забыўся, разгаварыўся, прыгадвае селяніну аб даўніх падзеях. Не баіцца яму адкрыцца, бо даўно існуюць паміж імі згода і ўзаемаразуменне. Шляхціч не цураецца простага люду, не глядзіць на яго звысоку.

Як і сам Альхімовіч! А як нялёгка яму заўсёды заставацца самім сабой! І як цяжка гэта рабіць цяпер, калі на двары 1908 год. Наступае рэакцыя. Адзінае ўсцешвае Альхімовіча, што парасткі нацыянальнага адраджэння на Беларусі, няхай і кволыя, гатовы вытрымаць сіберныя павевы часу. Глядзіш, ужо і многія са знаёмых не глядзяць на цябе, як на нейкага дзівака, які размаўляе на "мужыцкай мове".

Каб ведалі яны, усе гэтыя нацыянальныя нігілісты, наколькі мілагучная яна на роднай яму Гродзеншчыне! Каб хоць пачулі аднойчы песні, якія гучаць там... А мову ён не проста любіць. І тут у Варшаве па меры магчымасці толькі ёю і карыстаецца. Як і ў Дамброве...

Нарадзіўся Казімір Альхімовіч 20 снежня 1840 года ў сям'і небагатага шляхціча (цяперашняя вёска Дамброва ў Шчучынскім раёне). Маленства правёў на ўлонні прыроды. Хоць і цяжка сям'і даводзілася, ды грошай на навучанне дзяцей не шкадавалі (дарэчы, брат Альхімовіча Гіяцынт таксама стаў мастаком). Калі Казік падрос, яго адправілі ў Віленскую гімназію. Відаць, на гэты час прыпадае і яго захапленне маляваннем, хоць, хутчэй за ўсё, першыя крокі ў гэтым кірунку зрабіў у маленстве.

Шкада, але больш-менш пэўных звестак аб тагачасным і пазнейшым жыцці Альхімовіча на сённяшні дзень невядома. Толькі можна пэўна сказаць, што пасля заканчэння гімназіі ён некаторы час працаваў эканомам у адным з маёнткаў пад Кіевам. Калі пачалося паўстанне 1863 года, апынуўся ў шэрагу яго ўдзельнікаў. Выслалі на Урал, у Верхаторыю. У ссылцы знаходзіўся да 1869 года, а вызвалілі па амністыі. Збіраўся падацца на Радзіму, паехаць у тагачасны Лідскі павет, ці пасяліцца ў якім-небудзь іншым месцы Гродзеншчыны, але ўлады забаранілі. Перабраўся ў Варшаву. На гэты час Альхімовіч канчаткова зразумеў, што яго прызванне ў маляванні. Адначасова пераканаўся, як яму не стае прафесійнай, спецыяльнай падрыхтоўкі. Таму ў 1871 годзе паступіў у рысавальную школу, якую ўзначальваў Войцех Герсан. Выпускнік Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, ён стварыў прыватную навучальную ўстанову.

Ёсць меркаванні, што Альхімовіч з'яўляўся любімым вучнем Герсана. А паколькі Пецярбургская Акадэмія мастацтваў мела шэфства над гэтай школай, дык дзейнасць яе выхаванцаў заўсёды знаходзілася ў полі зроку мастацкіх славутасцяў. Тым больш, што Герсан рэгулярна прадстаўляў у акадэмію лепшыя работы сваіх вучняў, у тым ліку і Альхімовіча, які быў двойчы ўзнагароджаны сярэбраным медалём. Такую высокую ацэнку атрымалі работы "Смерць у выгнанні" і "Пахаванне на Урале".

Няцяжка здагадацца, што ў аснову твораў пакладзены асабістыя ўражанні аўтара ад знаходжання ў ссылцы. З гэтага моманту ў Альхімовіча і акрэслілася схільнасць да драматычных момантаў у адлюстраванні жыцця. Аднак, хоць першыя творы і знайшлі належную ацэнку, станаўленне яго мастакоўскай індывідуальнасці пакуль знаходзілася на пачатковым шляху. Гэта разумеў і сам Альхімовіч. Таму ў тым жа 1873 годзе, калі была завершана вучоба ў школе Герсана, паступіў у Мюнхенскую Акадэмію мастацтваў.

Гады вучобы ў Мюнхене (акадэмію закончыў у 1875 годзе) сталіся для Альхімовіча надзіва плённымі. Ён шмат выстаўляў сваіх работ на розных выставах, прымаў удзел у шматлікіх творчых конкурсах. І не без поспеху. Атрымаў некалькі залатых і сярэбраных медалёў. А затым былі гады, праведзеныя ў Францыі, у тым ліку і ў Парыжы. У горадзе, дзе, здавалася б, калі ты маеш хоць задаткі таленту, нельга не маляваць. Сама атмасфера вымагала гэтага. Над галовамі жывых лунаў дух вялікіх папярэднікаў, прадстаўнікоў не толькі французскага народа, а і іншых, каго гасцінная Францыя прытуліла, прыгалубіла, стварыла спрыяльныя ўмовы для працы. Жыў і ў Авоне, у Фантэнбло, дзе кіраваў мастацкай майстэрняй.

У 1878 годзе Альхімовіч вярнуўся ў Варшаву. Вярнуўся, каб весці аселы лад жыцця. Праз два гады пачаў выкладаць малюнак у школе жывапісу і разьбы Б.Пасвіковай. Па вяртанні і заявіў аб сабе як майстра гістарычнага жанру. Менавіта васьмідзесятымі гадамі пазначаны многія яго творы, што даюць усе падставы гаварыць пра Альхімовіча, як пра першапраходцу ў беларускім жывапісе ў гэтым кірунку. Безумоўна, і да яго рабіліся пэўныя подступы па асэнсаванні мінуўшчыны. Не ў апошнюю чаргу, напрыклад, Янам Траяноўскім, Януарыем Сухадольскім і іншымі мастакамі, таксама ўраджэнцамі Гродзеншчыны. Але згаданых майстроў цікавіла гісторыя ўвогуле. Яны акцэнтавалі ўвагу на даўніх падзеях, незалежна ад таго, дзе тыя адбываліся. Іншая справа Альхімовіч. Яго вабіла найперш гісторыя Вялікага княства Літоўскага, а калі больш канкрэтна — беларуская мінуўшчына.



І ўсё ж сапраўдная вядомасць (у тым ліку і сусветная) да Альхімовіча прыйшла дзякуючы карціне "Пахаванне Гедыміна", завершанай у 1883 годзе. Праўда, на шырокі глядацкі суд яна была вынесена крыху пазней. Але які, няхай у нечым і запознены, поспех! Твор з 1887 па 1888 год экспанаваўся на выставах у Варшаве, Пецярбургу, Львове, Сан-Францыска... І нязменныя высокія ўзнагароды. І захапляльныя водгукі крытыкі... І шмат наведнікаў, што запыняліся менавіта ля гэтага палатна. І, безумоўна ж, заканамернае, зусім зразумелае жаданне многіх даведацца, а хто ж такі Гедымін, адкуль да яго такая ўвага мастака?

"Адкрывалі" аматары мастацтва для сябе Гедыміна, тым самым даведваліся і пра падзеі, што мелі месца ў Вялікім княстве Літоўскім. І, моўчкі стоячы ля палатна, як бы смуткавалі па тым, хто гэтак шмат зрабіў дзеля ўмацавання магутнасці ўласнай дзяржавы, дзеля яе росквіту і незалежнасці.

А карціна так і напісана, што веліч і смутак паяднаны паміж сабой. Веліч ад усведамлення,якія людзі калісь жылі на беларускай зямлі. Смутак ад незваротнасці страты. Такі настрой перажываў і сам творца. Пра гэта здагадваешся, уважліва ўзіраючыся ў сюжэт.



Самі фарбы ствараюць адпаведны настрой. А яшчэ — удалая кампазіцыйная прадуманасць твора. З самога гушчару, з нетраў яго, дзе, здавалася б, дагэтуль ніколі не ступала нага, выходзяць воіны. У смутку і жалобе нясуць яны на руках цела князя, якому не толькі служылі верай і праўдай, але і любілі яго. За мужнасць і справядлівасць, за адданасць бацькоўскай зямлі. Поруч — гэткі ж самотлівы народ, той народ, якому Гедымін аддаў сваё жыццё. Дзеля шчаснага іхняга дня змагаючыся і дзеля будучыні...

Двойчы звяртаўся Альхімовіч да аблічча яшчэ аднаго слаўнага князя, чыё імя так шмат значыць у гісторыі нашай дзяржавы — Кейстута. Але пісаў свае творы, як вядома, у той час, калі ў афіцыйнай гістарычнай навуцы ніхто яшчэ ўсур'ёз не ставіўся да грамадзянскіх спраў і ратных подзвігаў гэтага князя. У цэнтры ўвагі пастаянна знаходзіліся іншыя гістарычныя асобы, тыя, хто таптаў беларускую зямлю, заваёўваў яе, а ў палітычных стасунках арыентаваўся на Маскву ці Варшаву. Але не яны вабілі Альхімовіча. Яму хацелася ўвасабляць на палатне лепшых сыноў Бацькаўшчыны.

І, асабліва важна, Альхімовіч быў далёкі ад думкі, што па-сапраўднаму, з вялікай павагай наступнікі паставяцца да пэўнага нацыянальнага дзеяча толькі тады, калі ён будзе паказаны падчас нейкай вызначальнай сваёй справы. Разумеў, наколькі важна адчуць душэўны стан таго, пра каго расказваеш. Таму і выбраў для раскрыцця вобраза князя сюжэт не тое што не гераічны, а, дакладней, побытавы. Пасля цяжкага бою Кейстут прылёг адпачыць, ды так стаміўся, што адразу, як забіты, заснуў. Ніхто не хоча патрывожыць сон князя, хоць, як бачна, цяпер зусім не да адпачынку. І гэта відаць па вачах воя, які непадалёку выглядае з кустоў. Ён не проста ахоўвае князя. Ён ведае — ворагі побач. Позірк юнака засяроджаны, да таго строгі, што, калі ўзнікне хоць маленькая небяспека, ён, не задумваючыся, не чакаючы падтрымкі, кінецца ў бой.

Калі на карціне "Адпачынак Кейстута" сам князь бачны, дык на другой — "Вітаўт на магіле Кейстута" — у роздуме застыў той, каму прадаўжаць справу па з'яднанні беларускіх зямель. Вітаўт злез з каня, застыў нерухома... Пра што думаецца яму ў гэты момант, можна толькі здагадвацца. Магчыма, непакояць думкі, што нішто

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

не вечна на гэтай зямлі і калі-небудзь яму самому давядзецца назаўсёды адысці ў нябыт. Асабліва, калі ўлічыць, што так часта даводзіцца выступаць супраць ворагаў і столькі небяспекі падсцерагае на кожным кроку. Хаця, хутчэй, Вітаўт дае маўклівую клятву вернасці справе, якой служыў Кейстут. І разам з тым — зноў жа моўчкі — клянецца помсціць ворагам.

Прыцягвала Альхімовіча і польская гісторыя. Напрыклад, у Варшаве, музеі Войска Польскага захоўваецца ці не самае вялікае палатно мастака (памер 186 на 272 см) "Абарона Альштына". У аснове твора выпадак, які меў месца ў 1587 годзе. Ворагі, зразумеўшы, што абаронцаў ім не перамагчы, пайшлі на подласць. У якасці заложніка было захоплена дзіця Каспара Карлінскага, якому была пастаўлена ўмова: ці Альштын здасца без бою, ці ахвяру заб'юць. Жонка Карлінскага на каленях моліць аб літасці, сам жа Каспар знаходзіцца перад няпростым выбарам. Вакол гараджане, якія таксама ўжо разумеюць трагічнасць становішча.

Чалавек валявы, няскораны ў цэнтры ўвагі Альхімовіча ў карціне "Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага". Бунтар супраць каралеўскай улады закаваны ў ланцугі. Стомлены і знясілены пасля катаванняў ён прысеў на падлогу каземата. Ніякіх шанцаў уратавацца не засталося. Святар заканчвае малітву аб заспакаенні душы... У адкрытых дзвярах падзямелля відаць постаць ката з сякерай у руках. І ўсё ж Збароўскі не скарыўся! Ён пераможца, а не тыя, хто яго заб'юць. І гэтую рашучасць яго, нечуваную стойкасць мастак перадаваў удала знойдзеным прыёмам. Збароўскі рэзка павярнуў галаву, і позірк яго быццам пранізвае ўсіх, хто разглядае палатно. Збароўскі гатовы прыняць пакутніцкую смерць. Даўно быў гатовы, але не здрадзіў ні сваім поглядам, ні сваім жыццёвым ідэалам.

"Вясельныя ўрачыстасці Жыгімонта Аўгуста", "Апошні жрэц Літвы з дачкой Плёнтай", партрэты Паўла Яна Сапегі, Крыштафа Радзівіла — гэта таксама гісторыя. І адносна нядаўняя ў дачыненні да жыцця Альхімовіча, і больш далёкая. І ўвогуле, увесь яго мастакоўскі шлях быў пазначаны пільным позіркам да мінуўшчыны, а асэнсаванне яе стала крэдам усяго жыцця.

Разам з тым Альхімовіча вабілі і сюжэты з сучаснасці. Гэта было і вяртанне да падзей паўстання 1863 года, праўда, у нечым ускоснае — "На этапе", "Пахаванне на Урале", "Смерць у выгнанні". Яго цікавіла найперш тое, што адбылося пасля паражэння выступлення супраць царызму. Адлюстраваў Альхімовіч і вясковы побыт. Да раней згаданых твораў трэба аднесці "Жніво", "Найм работнікаў", "Хата селяніна", "Дажынкі"...

Дарэчы, у станковым жывапісе ён дасягнуў найбольшага поспеху, аднак творчае дараванне меў куды больш шырокае. Спрабаваў свае сілы ў галіне графікі. Вядомы і як манументаліст. Разам з Т.Попелем і А.Пятроўскім распісваў касцёл святой Кацярыны ў Пецярбургу. Займаўся разьбой па дрэве. Не чужой была ў яго ўмелых руках і гліна, распісваў фаянс. Ілюстраваў А.Міцкевіча, Ю.Крашэўскага...

Талентам абдзелены не быў. Ды і жыццёвым лёсам, не сказаць, каб пакрыўджаны. Ссылка зусім не мёдам аказалася, а ў астатнім... Дажыў да глыбокай старасці, памёр 31 снежня 1916 года.

Тады ж, у 1908 годзе, калі раптоўна з'явілася жаданне ці не падвесці рысу пад пражытым, з такой ахвотай і натхненнем і ўзяўся "аплачваць" яшчэ адну даніну Бацькаўшчыне, ствараючы палотны, прысвечаныя землякам. Тым самым набыў па сутнасці другое мастакоўскае дыханне.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*На рэпрадукцыях:*
*К.Альхімовіч. Аўтапартрэт;*
*"Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага";*
*"Ліздзейка з дачкою на рэштках царквы Перуна;*
*"Вясковая дзяўчына".*

# ДВА ПРАДЗЕДЫ

## Радавод

Было ў мяне два прадзеды — Сяргей Мікалаевіч Крыцкі, рускі, і Міхал Фёдаравіч Пінчук, беларус. Пабачыць іх мне не давялося. Ды і самі яны адзін аднаго ніколі не бачылі. Але, як кажуць бацькі, гэта былі добрыя працавітыя людзі. Адзін з іх жыў у Расіі, другі — за паўтары тысячы вёрст ад яго на Беларусі. Але лёс іх склаўся падобна. Шмат чаго выпала на іх долю: тры вайны, калектывізацыя, голад, холад, несправядлівасць, смерць родных...

Вось аб гэтых людзях я і хацеў бы расказаць вам.

Старэйшы з прадзедаў, Міхал Фёдаравіч Пінчук, нарадзіўся ў 1886 годзе, у вёсцы Рымшаўка Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Другі прадзед, Крыцкі Сяргей Мікалаевіч, быў на 7 гадоў маладзейшы. Ён нарадзіўся ў 1893 годзе ў сяле Анькова Іванаўскай губерні. Яго бацька, Мікалай Рыгоравіч, добра ведаў коней і гандляваў імі. Мікалай Рыгоравіч, мой прапрадзед, меў трох сыноў (Сяргей, Уладзімір і Яўген) і дачку Марыю. Браты дапамагалі бацьку ў яго працы і гэтым жылі. Яны мелі свой двухпавярховы дом у багатым сяле Анькова. Дом іх захаваўся да гэтага часу — у ім знаходзіцца прытулак для састарэлых.

А Міхал Фёдаравіч не меў, як кажуць, ні хаты, ні лапаты, бо яго бацькі памерлі, калі ён быў зусім маленькі (6 гадоў), і яго выхоўвалі старэйшыя браты і сёстры. Калі ён адслужыў у царскай арміі, то пайшоў на заробкі ў Данбас забойшчыкам. Цяжкай працай шахцёра ён сабраў грошай, і калі вярнуўся на Беларусь, 4 браты Пінчукі (Дзмітры, Якаў, Андрэй, Міхал) пабудавалі на паляне ў лесе 4 хаты, потым там сталі сяліцца і іншыя людзі — так пачалася вёска Нова-Краснае. Мой прадзед сваімі рукамі (а ён быў майстар на ўсе рукі) паставіў самую вялікую і светлую драўляную хату на вёсцы. Шыбы ў хаце былі вялікія, але без другога шкла, таму ўзімку ў хаце было сцюдзёна. Ажаніўся ён у 1917 годзе. Яго жонка, Праскоўя Сямёнаўна Пінчук (Забіран) нарадзілася ў 1900 годзе ў беднай сялянскай сям'і. Калі яна выходзіла замуж, яе сукенка на вяселлі была з марлі.

Сяргей Мікалаевіч ажаніўся таксама ў 1917 годзе з Ганнай Васілеўнай Цюнінай. Яна нарадзілася ў 1897 годзе. У майго прадзеда і прабабкі было чацвёра дзяцей — Мікалай (1918), Соф'я (1923), Васіль (1924) і Валенька (1928).

У І Сусветную вайну Сяргей Мікалаевіч быў артылерыстам у царскай арміі. У грамадзянскую ён ваяваў на баку чырвоных. А Міхал Фёдаравіч з 1918 па 1920 год ваяваў у кавалерыі Будзённага і ў баявых паходах быў у Малдавіі, Бесарабіі.

Пасля грамадзянскай вайны Міхал Фёдаравіч жыў у вёсцы ў сваёй хаце, меў дзве каровы, двух коней, авечак, парсюкоў, курэй, гусей. Уся гаспадарка трымалася на ім і на Праскоўі Сямёнаўне. Ды і дзеці (Аляксей — 1918, Марыя — 1922 і Валянціна — 1927), калі падраслі, дапамагалі па гаспадарцы. Але, нягледзячы на тое, што абодва мае прадзеды ваявалі ў Чырвонай Арміі, а потым усё мелі толькі сваёй працай, іх вырашылі раскулачыць... Навошта гэта патрэбна было? Яны ж добра працавалі і іншых людзей кармілі.

Вясна 1930 года. У Міхала Фёдаравіча адабралі кароў, коней, авечак і ўвесь сельгасінвентар у калгас, а самога збіраліся ўжо саслаць у Сібір, але прадзед, які яшчэ верыў у справядлівасць, напісаў ліст Сталіну. Да Сталіна ліст не дайшоў, але з Менска прыехаў упаўнаважаны, паглядзеў, распытаў людзей і ў сельсавеце сказаў, што прадзед не кулак, батракоў не трымаў, усё зарабіў сваёй працай і высяляць яго не трэба. А ўвечары, калі ўпаўнаважаны застаўся пераначаваць у Міхала Фёдаравіча, ён параіў яму нічога свайго з калгаса не забіраць, каб не чапляліся. Вось так і раскулачылі заснавальніка вёскі, былога байца Конармії Міхала Пінчука. Пасля гэтага Міхал Фёдаравіч аж да самай вайны ў калгасе не працаваў, а наймаўся будаваць дарогі. Сям'я ледзь зводзіла канцы з канцамі. Усе заробленыя грошы ішлі на падаткі — падаткі былі вельмі вялікія. Елі ж яны толькі тое, што самі вырошчвалі і здабывалі: бліны і кашу з грэчкі, бульбу са шкваркамі, малако, гародніну, грыбы, ягады. На краму грошай амаль што не было: куплялі толькі самае неабходнае — соль, запалкі, газу, баваўняныя тканіны. Лён ткалі самі. Самай каштоўнай рэччу ў хаце была швейная машынка "Зінгер", якую Міхал Фёдаравіч падараваў сваёй нявестцы Парасцы на вяселле. На машынцы шылі і кажухі, і мяхі, і сукенкі, і вясельныя ўборы. Добра працавала гэтая машынка. У час вайны яна тры гады праляжала закапаная ў лесе — хавалі ад немцаў. І зараз на гэтай машынцы таксама яшчэ шыюць у сям'і малодшай дачкі Міхала Фёдаравіча.

Сяргея Мікалаевіча раскулачылі таксама ў 1930 годзе, хоць уся



гаспадарка належала яго бацьку Мікалаю Рыгоравічу. Даведку пра тое, што прадзед ваяваў у Чырвонай Арміі, падманам адабралі, і ўсю сям'ю (Сяргей Мікалаевіч, Ганна Васілеўна і чацвёра дзяцей — малодшай Валі было два гады) у халоднай цяплушцы выслалі на Урал — будаваць Магнітагорск (у час вайны немцы ў такіх цяплушках везлі людзей на рабства ў Германію). Сяргей Мікалаевіч не пісаў ліст Сталіну аб тым, што яго, былога чырвонаармейца, не маючага сваёй гаспадаркі, высылаюць, ды і ці дапамагло б гэта ў вялікай Расіі? Прывезлі іх на гару Магнітную ў халодны, непагодны дзень, пасялілі ў недабудаваным бараку — не паспелі зрабіць дах. Ішоў дождж. На кожнага з сям'і адвялі па паўметра даўжыні барака, з двух бакоў завесілі посцілкамі — так атрымаўся пакой на шасцярых. Да раніцы ўсе папрамакалі. Валенька захварэла і неўзабаве памерла. Так пачалося жыццё "спецперасяленцаў", расцягнутае на доўгія дванаццаць гадоў. Будавалі Магнітагорскі металургічны, у 1933 годзе іх перасялілі ў Чалябінск на другую будоўлю, а ў 1942 годзе прадзед Сяргей Мікалаевіч памёр ад раку страўніка... На чужой зямлі...

Як успамінаў мой дзед Іван Піліпавіч (ён перад самай вайной наведваўся ў барак, дзе жыла яго нявеста Соф'я з бацькамі), Сяргей Мікалаевіч быў вельмі ціхі і лагодны чалавек. Прыйдзе з працы, сядзе ў кут — і не чутна яго: усім у хаце камандавала прабабка Ганна. А любімая песня прадзеда Сяргея была "Вот мчится тройка почтовая". А падыгрываў яму на баяне звычайна мой дзед Іван. У гонар майго прадзеда і назвалі майго бацьку Сяргеем. А мой дзед Іван Піліпавіч — з уральскіх казакаў, але гэта ўжо іншая гісторыя...



Раніцай 22 чэрвеня 1941 года мая бабуля Марыя, тады яшчэ маладая дзяўчына, якая толькі што скончыла школу, пешкі пайшла на станцыю, каб паехаць паступаць у медыцынскі інстытут. Яна марыла стаць доктарам. Ужо ў цягніку яна даведалася, што пачалася вайна. Прыйшлося вяртацца дадому. Праз тыдзень усю моладзь з вёскі пагналі капаць пад Рэчыцай супрацьтанкавыя рвы. Але рвы не спатрэбіліся: немцы абышлі Рэчыцу і праз тыдзень ужо былі далёка за Дняпром, уся Беларусь была захоплена фашыстамі. Але ў глухой лясной вёсцы Нова-Краснае немцы з'явіліся толькі праз месяц, у пачатку жніўня. Адразу ж прадзеда Міхала з сям'ёй высялілі з вялікай светлай хаты, у якой пасяліўся афіцэр. Тое, што не зрабілі Саветы ў пачатку калектывізацыі, зрабілі немцы ў пачатку вайны.

Калгас немцы не разагналі, а нават падтрымалі, паставілі на чале свайго старасту. Так жыццё з дапамогай немцаў вымусіла прадзеда Міхала працаваць у калгасе: збіраць ураджай, рамантаваць чыгунку.

У 1942 годзе немцы спалілі вёску, а скаціну і людзей пагналі ў Германію. Па лясной дарозе ў Рэчыцу ад статка адбілася карова. Немцы загадалі прадзеду Міхалу вярнуць яе. Але ён, дабегшы да каровы, абмінуў яе і пабег далей у лес. Немцы пачалі страляць услед з аўтаматаў, але прадзеду пашанцавала — застаўся жывы. Потым прабабка Параска, яго жонка, успаміналa, што яна падумала ў той момант: "Ці ж ён будзе такі дурны, што прыгоніць карову назад да немцаў?" Далей на той жа дарозе пашчасціла збегчы ў лес бабулі Машы, потым, ужо каля самай Рэчыцы, у полі адсталі ад калоны прабабка Параска з дачкой Валяй. Колькі радасці было потым, калі ўся іх сям'я сустрэлася ў лесе! Жылі ў зямлянцы, ад нямецкіх аблаў суткамі хаваліся ў балоце, дзе аўчаркі гублялі след. Праз то і выжылі. Зімавалі таксама ў лесе, у зямлянцы. Пакутавалі ад недахопу ежы, асабліва солі. 18 лістапада 1943 года на іх лагер наткнуліся два конныя разведчыкі Савецкай Арміі — колькі тады было радасці і шчасця! Неўзабаве прагналі фашыстаў з роднай зямлі.

Прадзед Міхал хацеў у роднай вёсцы, якая была дашчэнту знішчана фашыстамі, пачаць жыццё зноў. Але прабабка Параска ўгаварыла мужа пайсці жыць у Рэчыцу, бо там не было калгаса. Там іх пазней, пасля вайны, знайшоў сын Аляксей, які ўвесь гэты час ваяваў з фашыстамі ў радах Савецкай Арміі. У Рэчыцы ім адвялі на балоцістым месцы кавалак зямлі пад будоўлю хаты, выдзелілі аднаго палоннага немца ў дапамогу. Дзед асушыў балота, навазіў шмат зямлі пад хату і пачаў будоўлю. Вырошчваў ячмень на продаж, каб зарабіць грошы на будоўлю хаты. За два гады хату ў асноўным пабудавалі. У гэтай хаце і нарадзілася мая маці. А мой малодшы брацік Міця нарадзіўся ў другой хаце, у Гродне, якую пабудавалі мае бацькі.

Прадзеда Міхала Фёдаравіча Пінчука ў жывых я не застаў: ён памёр у снежні 1975 года, не дажыўшы двух месяцаў да 90 гадоў. Аб ім я ведаю з расказаў маіх бацькоў і бабулі Машы, а яго фотаздымак і зараз ляжыць на маім стале...

Дзякуючы добрым, працавітым прадзедам — Міхалу і Сяргею — засталіся жывымі іх дзеці — мае бабулі Марыя і Соф'я. Соф'я скончыла медыцынскі інстытут і працавала ўрачом-гінеколагам. Шмат каму ў Гародні дапамагала яна пры нараджэнні: кожнае свята да яе прыходзяць паштоўкі з віншаваннямі — памятаюць яе людзі. Бабулі Марыі з-за вайны скончыць інстытут не давялося, яна ўсё жыццё працавала ў газеце "Дняпровец" (г.Рэчыца), гадавала дзяцей і ўнукаў.

Вось такое жыццё...

**Глеб КАНУННІКАЎ**

г. Гродна

**P.S. ад рэдакцыі:** гэты твор 13-гадовага хлопца заняў III месца ў конкурсе "Зямля пад белымі крыламі". Друкуем яго без скарачэнняў і — віншуем аўтара!

ТВОРЧАЯ КУХНЯ

глядзела — хоць бы мне хто-небудзь паставіў такое! А музыка! — проста сядзіш і хочацца нешта рабіць. Елізар'еў неяк абяцаў мне, пад настрой: "Таня, я на цябе хачу паставіць нумар, 5-ы Канцэрт Баха, павольная частка, Largo." Я знайшла гэты канцэрт, паслухала — сапраўды, дзівосны кавалачак. Але ён сказаў і забыўся...

**І.К.:** Вы многа гастралявалі з тэатрам. Дзе, на Ваш погляд, лепшы глядач?

**Т.Ш.:** Лепшы глядач, зразумела, свой, мінскі. Вельмі тэмпераментны ў Іспаніі. У Нарвегіі, як вядзецца, спакойны і стрыманы, але спагадлівы і чулы. Вельмі добра прымалі ў Англіі — божа мой, як дзіўна добра! Гэта былі найлепшыя ў маім жыцці гастролі. Мы танцавалі пад жывы аркестр — англійскі, а дырыжыраваў Анісімаў.

**І.К.:** Наконт паклоннікаў: калі натоўп ля пад'езда адзін ці два вечары — гэта прыемна. А калі ўвесь час — гэта ж нагрузка, ім трэба нешта казаць...

**Т.Ш.:** Ды я ім нічога не казала, я выходзіла, яны мне дарылі цудоўныя кветкі, нешта казалі, пляскалі ў далоні, я казала "Так-так" і ішла.

**І.К.:** Вы разумееце замежныя мовы?

**Т.Ш.:** Трохі французскую, у нас уся тэрміналогія на французскай. Іспанская неяк лёгка кладзецца на слых.

**І.К.:** Як сказаў бы чалавек, зусім загрузлы ў забабонах, Вы ў "мінулым жыцці" былі іспанкай?

**Т.Ш.:** Мне проста блізкія іспанскія танцы, я іх адчуваю. У мяне адносіны да іспанскіх танцаў асаблівыя, і ў мяне была добры рэпетытар, Раіса Ермалаеўна Красоўская. Але па духу я больш спакойная. І, зразумела, на сцэне і ў жыцці я — два розных чалавекі. Калі раніцай у зале я займаюся класікай, проста раблю "ўрок", і прыходзіць які-небудзь новы рэпетытар, ён абсалютна ўпэўнены, што я — цалкам "блакітная" класічка. Я стаю з "залізанай" прычосачкай, акуратна займаюся ручкамі. І ніхто нават не думае, што я так шалёна танцую іспанскія танцы, што ўвогуле іх умею танцаваць.

**І.К.:** Ці магчыма імправізаваць на сцэне?

**Т.Ш.:** Так, і на шчасце, мне ніхто не перашкаджае гэта рабіць у тэатры — у характарных танцах, у елізар'еўскіх спектаклях. У чыстай класіцы складаней, але я і там гэта раблю.

**І.К.:** Танцоўшчыкі ідуць на пенсію ў 38 гадоў. Вядучыя танцуюць болей. Як Вы ставіцеся да "даўгажыцця" ў балеце? Ці правільна, што танцоўшчык працуе, пакуль у стане танцаваць, ці трэба адзначыць нейкую мяжу — ці то тэхнічную, ці ўзроставую — і ў гэты час пайсці.

**Т.Ш.:** Я лічу, што патрэбна мяжа наконт позірку на сябе з боку: калі на цябе цікава глядзець, трэба танцаваць.

**І.К.:** Чым Вы будзеце займацца, калі не будзеце танцаваць?

**Т.Ш.:** Я стараюся аб гэтым увогуле не думаць, мяне гэта вельмі страшыць. Мяне клічуць на працу ў вучылішча, ужо даўно, але я не ўпэўнена, што жадаю гэтага. Я магу навучыць аднаго таленавітага чалавека, я б змагла ўкласці ў яго тое, што маю сама, і дапамагчы. Але займацца ўсенавучам хіба нерваў не хопіць.

**І.К.:** Чым увогуле займаюцца балерыны, калі заканчваюць выступаць?

**Т.Ш.:** Хто чым, нехта ідзе харэографам у спорт, нехта ідзе ў школу выкладаць рытміку, нехта пачынае займацца нечым, не звязаным з балетам. Гэта досыць страшны момант. На мне ляжыць вялікая адказнасць, мне трэба паставіць на ногі дзіця, даць яму адукацыю. Калі я думаю аб будучым, у мяне псуецца настрой.

**І.К.:** Ведаеце, аб чым турбуецца адміністрацыя Тэатра? Што ў глядзельнай зале сталі пераважаць іншаземцы, турысты, што няма "свайго" пастаяннага гледача — тутэйшага, які і падтрымлівае артыста сваім разуменнем і сваёй патрабаванасцю. Вам патрэбны свой глядач, які прыходзіў бы на Вас?

**Т.Ш.:** У мяне ёсць такі глядач, і ён прыходзіць на мяне, я ўпэўнена. І "Чалавек з Ружай", які прыходзіць амаль на кожны спектакль і заўжды дорыць мне ружачку — дзяўчаты ўжо мне кажуць: "Зноў твой прыйшоў!" — хаця з ім я ўвогуле не кантактую. І іншыя. Я ведаю, і я гэтаму вельмі рада, і я страшэнна гэтым даражу. Для мяне гэта — бадай што найдаражэйшае з усяго, што я раблю.

***У новай пастаноўцы Валянціна Елізар'ева — балеце "Страсці" ("Рагнеда"), прэм'ера якога абвешчана на 28 ліпеня, Таццяна Шаметавец зноў выконвае адну з вядучых партый — прынцэсы Ганны. Поспеху! І да сустрэчы.***

**Размаўляў Ігар КЛОКАЎ**

# ФІЛЬМ — ЯК ЛАКМУСАВАЯ ПАПЕРКА

***Алена Саканян па першай прафесіі — вучоны-біёлаг, але вось ужо шмат гадоў яна вядомая як кінарэжысёр навукова-папулярнага кінематографа. Як большасць яе калег, яна даволі рэдка трапляе ў аб'ектывы кінакамер, таму што " не засвечваецца" на прэстыжных "зорных" кінатусоўках і іншых мерапрыемствах...Але яе добра ведаюць прафесіяналы (не памылюся, калі буду сцвярджаць, што ў Алены сусветная вядомасць)... Яна — мастак унікальных здольнасцей: сродкамі дакументальнага, навукова-папулярнага, анімацыйнага і мастацкага кінематографа стварае свой экранны свет.***

***У папярэдніх выпусках "Культуры" мы ўжо прадстаўлялі творчасць Алены Саканян, але яе асоба настолькі арыгінальная і глыбокая, што мы працягваем размову з кінарэжысёрам.***

***Некалькі гадоў таму на экранах (айчынныя гледачы змаглі ўбачыць на тэлеэкране) прайшла стужка "Аповесць пра зубра", прысвечаная трагічнаму лёсу вядомага генетыка-вучонага Цімафеева-Рэсоўскага. Фільм Саканян успрынялі як экранізацыю ў навукова-папулярным кінематографе твора Данііла Граніна "Зубр"...***

***Далёка не ўсе ведалі, што ўпершыню аб гэтым чалавеку публічна загаварыла менавіта Саканян...***

— Так, Цімафееў-Рэсоўскі ў 70-я знаходзіўся ў "чорных спісах", і да з'яўлення твора Граніна яго ведалі толькі ў вузкім коле яго сяброў, вучняў. Здымак вядомага вучонага нельга было нават у шматтыражнай газеце надрукаваць. У час работы над фільмам "Генетыка і мы" я здымала той самы кангрэс па генетыцы, з якога і пачынаецца кніжка Граніна. Але ў Граніна было нешта накшталт таго: ён сядзеў ці стаяў і да яго патокамі цёк натоўп вучоных, таму што ён быў ужо гэткі паважаны патрыярх. Але ў жыцці было ўсё наадварот. У Палацы з'ездаў стаяў адзінокі Цімафееў-Рэсоўскі і да яго проста ніхто не рызыкаваў і блізка падысці, бо нашых папярэдзілі, што рабіць гэта нельга. На першы генетычны кангрэс запрасілі шмат іншаземных вучоных, якія не павінны былі бачыць нашы добрыя адносіны да яго. Цімафееў-Рэсоўскі стаяў абсалютна пакінутым старым, адчувалася, што ўнутры ў яго ўсё неяк абмякла... І толькі вучоны Рапапорт першы парушыў гэту зону адчужэння, падышоў і проста павітаўся, і вось пасля гэтага да вучонага панёсся натоўп і далей усё было, як у кніжцы...

Другі раз я здымала яго для стужкі "Хто абудзіць аксалотля?" Адна з ліній была звязаная менавіта з дзейнасцю генетыка Цімафеева-Рэсоўскага. А у мастацкім савеце студыі быў чамусьці галоўны рэдактар часопіса "Чалавек і закон". Пры абмеркаванні сцэнарыя ён сказаў: "З глузду з'ехалі — фашыста ў сцэнарый устаўляць?" А рэдактары настолькі разгубіліся, што проста нічога не зразумелі і ўсур'ёз на гэта не прарэагавалі. А калі фільм быў закончаны, за тыдзень да прагляду на мастацкім савеце гэты наш "пільны" пракраўся, яго выкінулі з работы і, зразумела, з кінастудыі. Але на праглядзе ўжо рэдактура абурылася: "Хто гэты стары, які гаворыць, што навука і веды — гэта розныя рэчы і што сапраўдных ведаў навука не дае?" Выкінуць, выразаць, ну і г.д. Быў канец месяца, і дырэктар студыі мне сказаў: "Так, вы яго хуценька выразайце, стужку здаём у тэрмін. Прэміі атрымаем і г.д." А раніцай мне пазванілі і сказалі, што Цімафееў-Рэсоўскі памёр. Я пайшла да дырэктара і сказала: "Гэта вялікі чалавек, і толькі ў нашым фільме ёсць кадры з яго ўдзелам, якія павінны застацца". Ён здзейсніў учынак — не знішчыў неацэнныя кадры.

Аднойчы ў мяне папрасілі дазволу выкарыстаць мае асабістыя кінакадры з завяшчаннем Цімафеева-Рэсоўскага, я не збіралася здымаць пра яго асобны фільм. Гранін ужо кніжку напісаў, ужо шмат "плям" у навуцы адкрывалі. Але калі я прагледзела гэтую плёнку, з якой на мяне паглядзеў Цімафееў-Рэсоўскі і сказаў: "Ты не пасмееш перадаць гэты матэрыял іншаму...", я адклала работу над стужкай пра Хлебнікава і стала працаваць над "Аповесцю пра зубра".

**— Кінастужка "Дошкі лёсу", прысвечаная творчай асобе Хлебнікава, зроблена цалкам у іншай творчай манеры. Вы ішлі ў сваёй рабоце ад паэтыкі Веліміра Хлебнікава? Наогул, у якой ступені асоба, дакладней, прадмет фільма дыктуе выбар выяўленчых сродкаў?**

— Я абсалютна перакананая ў тым, што пра творчасць Хлебнікава нельга расказваць традыцыйнай мовай экрана. Так, наша стужка даволі цяжкаватая для ўспрымання. Але я наўмысна паставіла перад гледачамі мэту: паспрабуйце зразумець гэтага паэта, і калі ў вас гэта атрымаецца, Хлебнікаў вас аддзякуе, вы адразу адкрыеце цудоўны свет незвычайнага паэта...

**— Задача ў сённяшні час даволі рызыкоўная, тым больш трэба ўлічыць, што ён доўгі час не быў вядомы шырокаму чытачу.**

— Я сапраўды лічу, што ўпершыню менавіта ў маім фільме Хлебнікаў адэкватны самому сабе, бо ён мысліў вобразамі, галаграфічна. І я імкнулася зрабіць фільм пра Хлебнікава паэтычнай мовай самога Хлебнікава.

**— У Вашай стужцы Хлебнікаў паўстае як чалавек, лёс каторага і з'яўляецца унікальным мастацкім творам...**

— Так, ён незвычайны чалавек. Па гараскопе Хлебнікаў мае адлюстраванне ў геаграфіі: памёр ля вытокаў Волгі, а нарадзіўся ў тым месцы, дзе Волга ўпадае ў Каспійскае мора. Ён як бы злучыўся з Волгай у адно кальцо, Хлебнікаў лічыў сябе азістам — чалавекам, які бясконца адраджаецца, а месца сваёй смерці ён пралічыў яшчэ пры жыцці. Аднойчы ён спытаў у свайго духоўнага двайніка Ка: дзе і калі? Ка ўзяў яго за руку, падаў яму нітку і па ёй яны пайшлі па карце. "Я прыйшоў не да таго мора, дзе нарадзіўся (Каспійскага), а да другога — на поўнач (Ламаносава)". Хлебнікаў у канцы жыцця туды паехаў, адразу цяжка захварэў, і яго нельга было вывезці адтуль, бо зваротны білет аказаўся несапраўдным... Такі вось лёс...

**— У Вашай стужцы з Хлебнікавым удзельнічаюць таксама сучасныя незвычайныя людзі. Напрыклад, скульптар Сцёпа з яго помнікам Хлебнікаву.**



— Сцёпа — дзіўны, дзіўны чалавек. Ён пачаў працаваць над помнікам Хлебнікаву ў жніўні 92-га. Пасля таго, як да яго ноччу прыйшоў Хлебнікаў...

**— А гэта не прывід або...**

— Гэта здарылася, калі мы заканчвалі першы фільм з трылогіі пра Хлебнікава, здымалі на могілках, дзе ён пахаваны. Калі праявілі плёнку, побач з яго помнікам стаяў лік, якога ў час здымак не было. Мы гэта зразумелі як яго адабрэнне. У той жа час, у жніўні 92-га, ён прыходзіў да Сцёпы.

**— Але Сцёпа прызнаўся, што гэты прыход яго неяк напужаў.**

— Мабыць, гэта быў таксама знак. Ён узнавіў работу над помнікам у маі і цалкам яго перапрацаваў. Гэты помнік стаяў сабе ў калмыцкай вёсцы сярод крывых платоў і слупоў, і ўсе жыхары здзекаваліся з чатырохметровай фігуры паэта ў бронзе. Ён стаяў на пастаменце з чырвонай і белай цэглы тыпу туалета. І на гэтым пастаменце стаяў Прэзідэнт зямнога шара (так называлі Хлебнікава). Я прыйшла да мясцовага начальства і сказала, што мастацкі савет (які такі савет, зразумела, ніхто не ўцяміў) вырашыў — помнік прыбраць. Знайшлі месца ў стэпе, курган, дзе і паставілі помнік. А да Кірсана Ілюмжынава прыйшла дэпеша пра тое, што рэжысёр помнікі па стэпе цягае. Але ён прыехаў да яго, убачыў і ўсё зразумеў...

**— Уключэнне палітычнага дзеяча ў структуру духоўнага свету паэта выклікае шмат пытанняў. Вы балансуеце на лязе не нажа нават, а брытвы. Ілюмжынаў пададзены, як пасланнік з вышыні...**

— І Вы так зразумелі? Чаму? Вы ж памятаеце мой папярэдні хлебнікаўскі фільм, у якім ёсць армянскія фізікі як прадстаўнікі армянскага дробу Хлебнікава. Атрымліваецца, што фізікі таксама прагучалі паднябесным матывам? Я перакананая, што гэтыя думкі сфармаваны прэсай. Калі Хлебнікаў паслаў да мяне Ілюмжынава...

**— Хлебнікаў паслаў?**

— Так, я пралічыла Кірсана па метадзе Хлебнікава, як і армянскіх фізікаў. Глядзіце (хутка піша шмат лічбаў). Месца нараджэння Ілюмжынава — Калмыкія, год — 1962-гі. 62-гі — гэта год Хлебнікава. Усе мы з вамі з'яўляемся дробамі, паўторамі, увасабленнямі нейкіх іншых лёсаў. У прынцыпе існуе абмежаваная колькасць лёсаў і мноства іх паўтораў — людзей з адзінай жыццёвай мэтай. Стопрацэнтна, што цераз 365 гадоў цалкам паўторыцца і Ваш варыянт, або могуць быць дробы, як і ў Хлебнікава. Я вылічыла па яго сістэме, што Булат Акуджава з'яўляецца дробам Пушкіна. І гэта сапраўды так, Булат цалкам звернуты ў Пушкінскую эпоху.

**— Давайце вернемся да Ілюмжынава. Вы напрыканцы стужкі збіваецеся на традыцыйны жанр "жыція святароў".**

— На папярэднім фестывалі жаночага кіно я ўпершыню ўбачыла Ілюмжынава па тэлебачанні. Мы стаялі разам з рэжысёрам Марыянай Таўрог, і я ёй сказала: а вось і калмыцкі дроб Хлебнікава. Усе здзівіліся, яго ніхто не ведаў і таму ніхто і не падумаў абвінавачваць мяне ў кан'юнктуры. А я, калі ўбачыла гэту яго манеру паводзін — абсалютны эпатаж, зразумела, што ён цалкам увасабляе хлебнікаўскі тып, які таксама імкнуўся скінуць усіх з карабля сучаснасці. А галоўнае, што Ілюмжынаў увасабляе сёння хлебнікаўскія ідэі — ідэі з'яднання людзей. Памятаеце, што галоўная ідэя паэта — аб'яднанне людзей, як аб'яднаны зоркі ў Сусвет, і стварэнне адзінага чалавецтва.

**— Гучыць прыгожа, але...**

— Не, гэта не ўтопія. Да гэтага чалавецтва прыйдзе. А Ілюмжынаў зараз будуе храм, які аб'яднае ўсе рэлігіі. І гэта не экуменізм нават.

**— Алена, дзіўна наогул бачыць зараз мастака, захопленага асобай палітычнага дзеяча. Ну, палітыка ўсё ж такі — брудны занятак.**

— Мой фільм з'яўляецца сёння лакмусавай паперкай, таму што ў нашым усведамленні сродкамі масавай інфармацыі фармуецца вобраз адыёзны. Прэзідэнт Калмыкіі Ілюмжынаў усё робіць насуперак Крамлю. Калі Грачоў прапанаваў яму размясціць ваенна-паветраную базу, ён адмовіўся, нягледзячы на фінансавыя льготы. Для яго больш важна зрабіць нацыянальны парк Калмыкіі і захаваць сваю флору і фауну. Аб гэтым у газетах не напісана, як і пра тое, што ў час парламенцкага крызісу ўсе рэгіёны Расіі абралі яго сваім лідэрам і ён пайшоў у Белы дом... Да здымак майго фільма ён нічога не ведаў пра Хлебнікава, але адразу прасякнуўся яго духам... Наогул гэта артыстычная натура. І людзі зусім не ведаюць гэтага тонкага разумнага чалавека.

**— У адной з Вашых ранніх стужак сцвярджаецца, што чалавек знаходзіцца зараз у перыядзе, калі можа адбыцца эвалюцыйны скачок.**

— Навукай даказана, што толькі 5 працэнтаў нашых генаў "працуюць", а астатнія 95 яшчэ не прачнуліся. Яны могуць абудзіцца ў час стрэсавых сітуацый...

**— Стрэсаў усё ж такі хапае, хоць бы тыя 5 працэнтаў не выключыліся...**

— Ведаеце, Вярнадскі пісаў, што ўсё ўпіраецца ў аўтатропію. І калі атрымаецца, што чалавек стане аўтатропным, ён зможа "харчавацца" сонечным святлом, атрымоўваць мінералы і самастойна іх сінтэзаваць. І як сказаў бы Цімафееў-Рэсоўскі, "тады і камунізм і сацыялізм стануць непатрэбныя." Усё гэта існуе на нейкім пэўным этапе.

**— Вы верыце ў гэтыя ідэі як вучоны-біёлаг і як мастак?**

— Як мастак і як вучоны я веру, што культура павінна выцягнуць чалавека. Яна стваралася менавіта для таго, каб чалавек застаўся чалавекам.

**Гутарку вяла Галіна ШУР**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ЧАМУ НЕ ВАБЯЦЬ... ГЛЕЧЫКІ НА ПЛОЦЕ?




**ПАШТОВЫЯ МАРКІ — візітныя карткі краіны... Хто будзе спрачацца з такім вызначэннем? Праз паштовыя маркі мы не толькі аплочваем паслугі сувязі, але і "чытаем" гісторыю дзяржавы, спазнаем яе мінулае, бачым дзень сённяшні і можам зазірнуць у будучыню.**

"Візіткі" Рэспублікі Беларусь з'явіліся ў 1992 годзе. За тры з паловаю гады іх выдадзена ўжо некалькі дзесяткаў. На канвертах пісьмаў яны разляцеліся па ўсім свеце, паведамляючы, што ёсць такая дзяржава — Беларусь. Першая марка беларускай пошты — з выявау крыжа Еўфрасінні Полацкай,— безумоўна, падзея. Аднак філатэлісты былі расчараваны. Нараканні выклікалі і каляровы фон маркі, не поўнасцю аддрукаваны на рагах выявы, і арнамент, і недаравальная інфармацыйная сцісласць. Хіба нельга было зрабіць інакшым той жа фон, даць цалкам выяву крыжа, а не ўсякаць яго? Чаму было не назваць аўтара-ювеліра і год (стагоддзе), калі гэтая святая рэліквія народа была зроблена?

І ўсё ж з'яўленне, выхад у паштовае абарачэнне беларускай маркі № 1 распачынаў новую старонку ў гісторыі беларускай філатэліі. Ды і расчараванне ад першай "аладкі" хутка забылася — да 1000-годдзя Беларускай праваслаўнай царквы з'явіўся цудоўны блок з-выявау таго ж крыжа, але ў "поўны рост". У тым жа 1992 годзе была пушчана ў паштовае абарачэнне серыя мініяцюр (6 марак), прысвечаных старажытным помнікам дойлідства. На марках паўсталі далёка вядомая за межамі Беларусі Белая (Камянецкая) вежа, пабудаваная ў XIII стагоддзі (г.п. Камянец, Брэсцкая вобласць), замак у Нясвіжы (XV — XIX стст.), Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне (XII ст.), Мірскі замак (XVI ст.), Полацкі сабор Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. На апошняй мініяцюры серыі адлюстравана Спаса-Праабражэнская царква, пабудаваная ў XVI — XVII стст. (г.Заслаўе, Мінская вобласць).

Гэта быў добры падарунак не толькі знаўцам паштовых знакаў. Сярод філатэлістаў зацеплілася надзея, што беларуская пошта адгэтуль пачне выпускаць паштовыя мініяцюры без ранейшых прыкрасцяў. Аднак...

На пачатку 1992 года выдаецца новая серыя марак і прысвячаецца старажытнай беларускай кераміцы. Цікавая, незацяганая, арыгінальная тэма для марак! Маркі з густам па-мастацку аформілі, у іх арыгінальны памер, але серыя не вабіць калекцыянераў. Чаму? Ды з тае ж прычыны — адсутнасці інфармацыі. Паглядзіце ўважліва на мініяцюру "глечыкі на плоце" (так празвалі гэтую серыю філатэлісты). Дзе, па чым відаць, што гэта старажытная беларуская кераміка? Дзе яна зроблена? Як называецца? А можа, беларуская пошта прысвяціла серыю сваіх марак кераміцы іншай краіны? Нам здаецца, што серыю арыгінальных марак толькі ўпрыгожылі б "пашпартныя" звесткі на кожным паасобніку: назва (назва кароткая, аўтэнтычная, як гэта і ёсць у побыце беларусаў) і дата нараджэння. З такімі назвамі марка ажыла б, "загаварыла", але ж...

Магчыма, у Міністэрстве сувязі нашы думкі ўлічылі, і вось ужо маркі 1993 года з серыі "Народныя вырабы з саломкі" маюць свае назвы. Хочацца падзякаваць аўтару гэтай серыі мініяцюр — маркі атрымаліся прыгожыя і арыгінальныя па тэме. Іх шукаюць, іх набываюць не толькі калекцыянеры нашай краіны.

У 1993 годзе ў паштовае абарачэнне паступіла серыя марак, прысвечаная гістарычным асобам — князю Рагвалоду, князёўне Рагнедзе, асветніку Сымону Буднаму. Рагвалод — першы на нашых землях князь, пра якога паведамляюць старыя летапісы. Ён княжыў у Полацку ў другой палове X ст., гэта пры ім Полацкае княства набыло вядомасць і моц. На марцы мастак паказаў князя Рагвалода на фоне карты старажытнага Полацкага княства. Пра князёўну Рагнеду, дачку Рагвалодаву, напісана шмат гістарычных даследаванняў і літаратурных твораў. На паштовай марцы мы бачым Рагнеду на фоне старажытнага драўлянага замка, што стаіць на ўзвышшы. На жаль, мастак не напісаў, што за старажытны горад Беларусі адлюстраваны на марцы. Магчыма, гэта старажытнае Заслаўе, горад, у якім, паводле падання, знайшла сабе прытулак пасля ўсіх жыццёвых мітрэнгаў князёўна Рагнеда, тут, кажуць, яна пахавана.

Яшчэ адна марка з гэтай серыі — помнік Сымону Буднаму. Аднак радасць філатэлістаў была азмрочана тым, што помнік зноў жа не мае канкрэтнага адраса. Прачытаць, каму прысвячаецца помнік, яшчэ можна — мастак пакінуў у полі мініяцюры п'едэстал помніка і надпіс "Сымон Будны", на марцы ёсць даты жыцця вялікага асветніка "1530 — 1593". А вось дзе знаходзіцца помнік — і мастак і камісія, што зацвярджала малюнак, паведаміць забыліся. Аднак не ўсе жыхары Беларусі ведаюць, што імя Сымона Буднага звязана з Нясвіжам і што помнік устаноўлены менавіта там. А як быць філатэлістам далёкіх і блізкіх краін, якія амаль не ведаюць гісторыі Беларусі і ніколі не былі ў Нясвіжы?

На жаль, безадрасныя маркі — не такая ўжо рэдкая з'ява для беларускай пошты. Вось і адна з апошніх марак, прысвечаная І.Д.Чэрскаму, таксама не мае ніякіх звестак пра адлюстраваны на ёй пейзаж. Ёсць толькі надпіс пад партрэтам вучонага:"Іван Чэрскі. 1845 — 1892" і больш нічога...

З прыведзеных вышэй прыкладаў чытач можа зрабіць выснову, што ўсе выдадзеныя поштай рэспублікі маркі маюць хібы. Але гэта далёка не так. Безумоўна, раней, калі пошта СССР выпускала маркі для ўсіх саюзных рэспублік, у рэспубліканскіх Міністэрстваў сувязі не было клопату, што, калі і як выпускаць. Цяпер жа Беларускай пошце даводзіцца ўсё пачынаць з нуля. Натуральна, не стае вопыту ў вытворчасці. Няшмат яго і ў мастакоў — стваральнікаў марак. І ўсё ж будзем спадзявацца, што вопыт прыйдзе. Магла ж пошта нашай краіны выпусціць цудоўныя маркі са старажытнымі гербамі гарадоў, дзівосную серыю, прысвечаную Чырвонай кнізе Беларусі, цікавую серыю "Нацыянальныя строі" ды іншыя выпускі.

Вядома, філатэлістаў цікавяць не толькі маркі. Вялікую ўвагу і пошта, і калекцыянеры надаюць спецыяльным штэмпелям. Спецыяльныя штэмпелі пошта выкарыстоўвае дзеля таго, каб адзначыць тую ці іншую адметную дату ці падзею ў жыцці рэспублікі або ў свеце, выхад марак у паштовае абарачэнне.

Першы такі штэмпель наша пошта зрабіла ў 1991 годзе. На штэмпелі ўпершыню з'явіўся надпіс "Рэспубліка Беларусь". 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб назве нашай краіны, яе гербе і сцягу. З гэтае нагоды на Мінскім паштамце было арганізавана спецыяльнае гашэнне арыгінальным штэмпелем з выявау "Пагоні". Гэта — спецштэмпель беларускай пошты.

За 1991 — 1995 гады пошта Беларусі не адзін раз ужывала спецыяльныя гашэнні з нагоды розных падзей. Гэта 100 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы, 1000 гадоў Беларускай праваслаўнай царквы, Сусветны дзень пошты, Першы з'езд беларусаў свету, 50 гадоў з дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, 50 гадоў Перамогі... Праўда, і тут можна было б заўважыць, што некаторыя юбілеі і падзеі пошта проста прапусціла. Напрыклад, зімовыя Алімпійскія гульні, з'яўленне на свет Чырвонай кнігі, 100-годдзе авіяканструктара беларуса Паўла Сухога, 500-годдзе Мірскага замка...

Асобна хацелася б распавесці пра спецыяльны штэмпель "Першы дзень". Такім штэмпелем гасяцца маркі, калі паступаюць у паштовае абарачэнне. Штэмпель "першага дня" выкарыстоўваецца ў Беларусі з 1992 года, ім праведзена каля дзесяці гашэнняў. Такі працяглы час выкарыстання не практыкуе ні адна пошта ў свеце. Пошта Расіі, Літвы, Латвіі, Казахстана выкарыстоўвае штэмпель "Першы дзень" не больш, чым адзін раз. Для кожнага гашэння там бяруць новы, арыгінальны, тэматычна звязаны з серыяй марак, спецыяльны штэмпель "Першы дзень".

На жаль, беларуская пошта карыстаецца невыразным штэмпелем даволі доўга. У калекцыях аселі канверты з маркамі, пагашаныя адным і тым жа штэмпелем. Гэта ўжо не цікава. Больш за тое. Гэты штэмпель патрапіў у нядобрыя рукі, ім праведзена гашэнне "Першы дзень" тых марак, якія пошта афіцыйна не выпускала перад гашэннем "Першы дзень". Хтосьці зрабіў гэта са спекулятыўнай мэтай. Філатэлісты разумеюць цяжкасці пошты, але ж ёсць яшчэ "гонар мундзіра" і прэстыж краіны...

І яшчэ колькі слоў пра канверты і паштовыя карткі з арыгінальнай маркай. Такой прадукцыі выпускаецца мала. За тры гады з'явілася ўсяго 4 паштовыя карткі з арыгінальнай маркай — яны выдадзены да 50-годдзя вызвалення ад фашыстаў Брэста, Гомеля,Віцебска і Магілёва. І карыстаюцца вялікім попытам! Можна б было выдаваць некалькі такіх картак у год — добрых, цікавых, памятных падзеяў у нашай гісторыі хапае. Тое ж можна казаць і пра канверты.

Як не згадаць прыгожыя, цікавыя канверты, афармленыя ў адным стылі: "Дажынкі", "Гуканне вясны", "Каляды", а таксама "Нацыянальны парк Белавежская пушча" і "Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік". Яны сталі ўпрыгажэннем філатэлісцкіх калекцый збіральнікаў марак не толькі ў Беларусі.

Мы чакаем ад пошты канвертаў з выявамі старажытных замкаў, цэркваў і касцёлаў, мячэцяў і сінагог, з партрэтамі знакамітых ураджэнцаў Беларусі мінулых эпох і сённяшніх дзён, з выявамі жывёл і раслін.

Кожны сапраўдны філатэліст не проста збіральнік, не проста "накопитель", ён яшчэ і даследчык. Яму, як паветра, патрабуюцца каталогі марак. Ва ўсіх краінах СНД — былых саюзных рэспубліках — пошты выпусцілі каталогі сваіх марак. А ў некаторых нават у другі раз і ў каляровым паказе. У нашай краіне такога каталога няма — яшчэ не выдадзены, тым часам як у выданнях іншых краін СНД беларускія выпускі паказаны (напрыклад, у каталогу Расіі). У рэспубліцы (у Гомелі, Мінску) філатэлісты самі выдалі каталогі беларускіх выпускаў. А што ж пошта? Наколькі мне вядома, яшчэ ў 1993 — 1994 гадах такі каталог быў падрыхтаваны (вядома таму, што я асабіста ўдзельнічаў у яго стварэнні), аднак выпуск не ажыццёўлены да гэтае пары. На страту самой пошце і, канешне, філатэлістам Беларусі.

За апошнія тры з паловаю гады Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі зрабіла шмат, каб і маркі былі, і філатэлія жыла. Але шмат што ўпушчана. А даганяць ой як няпроста...

**ЛЕЎ КОЛАСАЎ,**
**намеснік старшыні**
**Беларускага саюза філатэлістаў**




























КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ**
**ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 2803
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**